*Што павінен быў сказаць, але не сказаў прэзідэнт Лукашэнка ў навагоднім звароце да беларускага народа (чытайце артыкул Сяргея Дубаўца «Вайна і мір» на стар. 5)*

(чытайце артыкул Сяргея Дубаўца «Вайна і мір» на стар. 5)

# СВАБОДА

Год заснавання 1902
Выходзіць з 1990
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец "Газэта СВАБОДА, Ltd."
Наклад 93.000
Адрас рэдакцыі:
220088, Мінск, вул.Іванаўская, 56
Тэл./факс 362441

26 студзеня 1996 г. №5 Кошт свабодны

## Мытныя ілюзіі атрымліваюць нафтавы працяг

Нягледзячы на сакрушальную паразу на выбарах, Беларускі Народны Фронт працягвае актыўна ўдзельнічаць у палітычным жыцці краіны. Так, нядаўна ён звярнуўся да Вярхоўнага Савета з заявай, якая ўтрымлівае просьбу правесці расследаванне на прадмет эканамічнай эфектыўнасці пагадненняў з буйнейшымі расійскімі нафтавымі кампаніямі і лютаўскага пагаднення аб адзінай мытнай прасторы Беларусі і Расіі.

На думку прадстаўнікоў Фронта, гэтыя пагадненні нанеслі рэспубліцы вялікі фінансавы ўрон, не кажучы ўжо пра пагрозу суверэнітэту. Страты толькі ад мытнага саюзу склалі каля 2,7 млрд. доляраў.

Нягледзячы на тое, што гэтая лічба ўяўляецца даволі сумнеўнай (хаця б ужо таму, што падобныя ацэнкі могуць быць вельмі прыблізнымі), выгада, атрыманая Беларусяй ад мытнага саюза, вельмі ілюзорная. Мяркуючы па заявах выканаўчай улады, саюз ствараўся з мэтаю спрасціць доступ беларускім таварам на расійскі рынак, а таксама для зніжэння кошту расійскай сыравіны і камплектуючых, якія неабходны беларускім прадпрыемствам. Рынак збыту быў адчынены, доступ да сыравіны і камплектуючых таксама, здаецца, быў прадастаўлены, заадно быў адменены падатак на дабаўленую вартасць на экспартуемую ў краіны СНД прадукцыю. Аднак лічбы, якія сведчаць аб уплыве мытнага саюза на гандаль з краінамі СНД, даволі супярэчлівыя. Так, з аднаго боку, у трэцім квартале 1995 года сярэднемесячны таваразварот павялічыўся на 18,8 %, ці 5,8 трыльёны рублёў (у параўнанні з другім кварталам) у чэрвені–ліпені экспарт у краіны СНД перавысіў імпарт, чаго ўжо даўно не было; але, з другога боку, за 9 месяцаў 1995 года таваразварот з краінамі СНД паменшыўся на 12,1 %. Прыхільнікаў мытнага саюза чакаў вялікі сюрпрыз – як аказалася, расійскія кліенты гэтаксама неплацежаздольныя, як і беларускія, і купіць ім прадукцыю беларускіх прадпрыемстваў, якая да ўсяго яшчэ і не вызначаецца высокай якасцю, папросту не па кішэні.

Памеры краіны зусім не прапарцыянальныя плацежаздольнаму попыту. Запазычанасць прадпрыемстваў замежных дзяржаваў (вядома, што больш за 90 % гэтай сумы прыпадае на краіны СНД) прадпрыемствам Рэспублікі Беларусь, па дадзеных афіцыйнай статыстыкі, вырасла з 1,9 трыльёнаў рублёў на 1 студзеня і 2,4 трыльёнаў рублёў на 1 чэрвеня 1995 года і перавысіла 5 трыльёнаў па стане на 1 лістапада 1995 года. Вось вам і павелічэнне экспарту і таЗваразвароту – прырост запазычанасці склаў амаль палову ад прыросту таваразвароту з краінамі СНД (!).

Адчувальна знізіўся экспарт такіх важнейшых для Беларусі відаў прадукцыі, як грузавыя аўтамабілі (экспарт за студзень–лістапад 1995 года склаў 52,8 % да адпаведнага перыяду 1994 года), трактары (36,7 %), тэлевізары (55,1 %), матацыклы (28,1 %), халадзільнік і маразільнікі (87,5 %) радыёпрыёмнікі (37,6 %) і г.д. Што датычыць расійскай сыравіны, то яе кошт ушчыльную наблізіўся да сусветных цэнаў, а па некаторых пазіцыях і перавысіў іх, што разам з фінансавай няўстойлівасцю беларускіх прадпрыемстваў і абумовіла зніжэнне імпарту з краінаў СНД, найперш расійскіх энерганосьбітаў. У дадатак да эканамічных праблемаў абвастрылася сітуацыя са злачыннасцю – на думку многіх экспертаў, адбываецца яе экспарт з Расіі ў Беларусь. Магчыма адзінымі, хто адчувальна выйграў ад саюза, сталі чаўнакі і кантрабандысты – празрыстая мяжа выдатна спрыяе нелегальнаму бізнесу паміж краінамі.

БНФ акцэнтаваў увагу яшчэ на адной праблеме, шчыльна звязанай з мытным саюзам – перадачы лепшых беларускіх прадпрыемстваў у рукі расійскіх нафтавых монстраў. Так, 51 % акцый Мазырскага нафтаперапрацоўчага завода перададзены кампаніі "Славнефть", а 76 % акцый аб'яднання "Нафтан" павінны перайсці да "ЛУКойла" і "ЮКАСа". Выгаднасць гэтых кантрактаў для рэспублікі аргументуецца тым, што новымі акцыянерамі будуць забяспечаныя бесперабойныя пастаўкі нафты на заводы і рэканструкцыя гэтых нафтаперапрацоўчых комплексаў. Гэта ў сваю чаргу гарантуе пастаянную занятасць для рабочых. Рэспубліка Беларусь, якая аддала ў чужыя рукі практычна ўсе нафтаперапрацоўчыя магутнасці краіны, аказваецца ў поўнай залежнасці ад іх рашэнняў. Пытанне забеспячэння рэспублікі нафтапрадуктамі ў выніку гэтых падзеяў, гэтак жа як і цэнавая палітыка ў гэтай галіне цяпер будуць вырашацца за яе межамі. У сувязі з гэтым становіцца праблематычным, што такія стратэгічныя для любой краіны пытанні залежаць ад палітыкі двух-трох кампаній, якім не так ужо і цяжка дамовіцца.

Як бы не аказалася, што выгоду ад гэтай здзелкі, апроч новых расійскіх акцыянераў, атрымаюць толькі чыноўнікі, якія падпісалі дамовы аб продажы акцый нафтаперапрацоўчых заводаў расійскім кампаніям.

**Алесь САДОЎСКІ**
**Сяргей ФЛАРЫЯНАЎ**

## Міністэрства абароны пашырае сферу гандлю зброяй

**З дасведчаных крыніцаў стала вядома, што з Новага года беларускае міністэрства абароны значна актывізавала знешнеэканамічную дзейнасць. З гэтым накірункам ваеннае ведамства звязвае свае спадзяванні па дадатковаму атрыманню фінансавых сродкаў на развіццё сацыяльнай сферы.**

У прыватнасці, 22 студзеня ў Пекін накіравалася прадстаўнічая дэлегацыя супрацоўнікаў Генеральнага штаба і Баранавіцкага авіяцыйна-рамонтнага завода. Плануецца падпісанне дамовы паміж міністэрствамі абароны Кітая і Беларусі, згодна з якой завод у Баранавічах будзе рабіць капітальны рамонт кітайскай баявой авіяцыйнай тэхнікі. Акрамя гэтага будуць абмяркоўвацца пытанні далейшага супрацоўніцтва і, у прыватнасці, арганізацыі навучання іншаземных спецыялістаў на базе завода. Не выключана детальная прапрацоўка пагаднення аб навучанні на базе ваеннай акадэміі будучых кітайскіх афіцэраў па найбольш дэфіцытных спецыяльнасцях (войскі супрацьпаветранай абароны, сувязі і артылерыі).

Назіраецца таксама актыўнасць беларускіх знешнегандлёвых арганізацый, якія занятыя ў сферы рэалізацыі ўзбраення. Напрыклад, у завяршаючай стадыі знаходзіцца кантракт "Белтэхэкспарту" з фірмай адной з балканскіх дзяржаваў на продаж некіруемых авіяцыйных ракет. Прычым ініцыятарам здзелкі выступіла міністэрства абароны Беларусі. Аднак, як сцвярджаюць нашыя крыніцы, рэалізацыя гэтага выгоднага для Беларусі кантракту сустракае супрацьстаянне ў некаторых дзяржструктурах, якія маюць непасрэднае дачыненне да продажу зброі. Не выключана, што мае месца лабіраванне чыноўнікамі інтарэсаў іншых знешнегандлёвых фірм, што спецыялізуюцца ў гэтай галіне.

Акрамя гэтага стала вядома яшчэ пра шэраг кантрактаў на продаж бронетанкавай тэхнікі, стралковай зброі, артылерыйскіх боезапасаў, якія могуць быць рэалізаваныя ўжо ў першым квартале. З крыніц, што заслугоўваюць даверу, стала вядома, што міністэрства абароны Ірака імкнецца пашыраць кантакты паміж ваеннымі ведамствамі дзвюх краін. Аднак пры гэтым абгаворваецца ўмова недапушчэння ўцечкі інфармацыі аб дасягнутых дамовах.

Побач з Кітаем і Іракам патэнцыяльнымі гандлёвымі партнёрамі для мінабароны Беларусі з'яўляюцца Славакія, Малдова і Карэя. Актывізаваліся ваяжы бізнесменаў шэрагу краін афрыканскага кантыненту, якія выказваюць жаданне ажыццяўляць ваенныя закупкі.

Разам з тым некаторыя аналітыкі выказваюць версію, што актыўнасць Беларусі як экспарцёра зброі не будзе мець перспектывы ўжо праз адзін-два гады. Гэта тлумачыцца адсутнасцю ўласных прадпрыемстваў ВПК і паступовым спусташэннем армейскіх баз, арсеналаў і складоў, маёмасць з якіх за апошнія 5 год была прададзеная за мяжу і паступіла на ўзбраенне ў падраздзяленні беларускай арміі.

*СІМ*

*НА ЗДЫМКУ (з архіва СВАБОДЫ): пачатак вайсковаму супрацоўніцтву з Кітаем быў пакладзены падчас мінулагодняга візіту ў Мінск прэм'ера Лі Пэна*



## БНФ будзе пратэставаць

**БНФ выступае супраць акцыяніравання расійскімі кампаніямі нафтаперапрацоўчых прадпрыемстваў Беларусі**

Як паведаміў прэс-сакратар Беларускага Народнага Фронту Сяргей Навумчык, апошняе паседжанне ценявога кабінету БНФ было прысвечана пытанню магчымага акцыяніравання беларускіх нафтаперапрацоўчых заводаў у Наваполацку і Мазыры расійскімі кампаніямі "ЛУКойл", "Славнефть" і "ЮКАс".

Выступаючы катэгарычна супраць перадачы кантрольнага пакету акцый беларускіх прадпрыемстваў у рукі расійскіх кампаній, што прывядзе да манапалізацыі галіны, на паседжанні ценявога кабінета прапаноўвалася разгарнуць кампанію супраць акцыяніравання. "Гэта могуць быць як пікеты і мітынгі, так і кансультацыі з парламентарыямі", – заявіў прэс-сакратар. Па словах сп.Навумчыка, напрацоўкі ценявога кабінету ўжо перададзеныя ў парламенцкую фракцыю "Грамадзянскае дзеянне" і камуністычную фракцыю парламента, якія павінны будуць ініцыіраваць разгляд пытання аб уласнасці нафтаперапрацоўваючых заводаў на сесіі парламента. Па інфармацыі сп.Навумчыка, камуністы ахвотна пайшлі на кантакт і заявілі, што будуць падтрымліваць ініцыятыву БНФ. На пытанне карэспандэнта, адкуль у выпадку неакцыяніравання возьмуцца грошы на рэканструкцыю заводаў (расійскі бок абавязуецца прыцягнуць неабходныя сродкі), сп.Навумчык спаслаўся на распрацоўкі ценявога кабінету, згодна з якімі інвеставаць грошы ў прадпрыемствы згодныя французскія і іншыя заходнія кампаніі.

*СІМ*

## Акно ў Еўропу адчынілася?

### *У такой спешцы ў Страсбург не выязджала яшчэ ніводная дэлегацыя з Беларусі*

У аўторак з Мінска на Мюнхен з мэтай трапіць у Страсбург на сесію Еўрапарламента вылецела першая дэлегацыя Вярхоўнага Савета 13-га склікання. У яе складзе Пётар Краўчанка, Мечыслаў Грыб, а кіраўніком значыцца намеснік старшыні ВС Георгій Малумаў.

Як стала вядома, М.Грыб даўно рыхтаваўся да гэтай паездкі, бо меў персанальнае запрашэнне, атрыманае яшчэ ў бытнасць старшынёй ВС. Пасля абрання кіраўніком міжнароднай камісіі вырашыў далучыцца да Грыба і Пётар Краўчанка. Але аб зборах даведаліся наверсе, і, відаць узніклі пытанні. У выніку ў апошні момант кіраўніком дэлегацыі быў прызначаны Георгій Малумаў, а Краўчанка ўвогуле апынуўся за "бортам". Пачаліся новыя ўзгадненні. І толькі ў панядзелак тройка першых пасланцоў беларускага парламента ў Еўрапейскі парламент была вызначана. Праўда, тады аказалася, што ў аўторак няма прамога рэйсу да Франкфурта, вось і давялося ляцець у Мюнхен, адкуль, пэўна, будуць дабірацца да французскай мяжы на папутным транспарце.

З якой мэтай? Канешне, з важнай. Каб сваёй прысутнасцю даказаць абранне новага парламента Беларусі, паспрыяць хуткаму прыняццю нашай краіны ў Савет Еўропы ды заслухаць на адным з камітэтаў даклад, падрыхтаваны назіральнікамі па выніках нашых выбараў. Праўда, змест гэтага даклада ўжо вядомы: Еўрапарламент прызнае выбары дэмакратычнымі, але з дзвюма агаворкамі – нялепшым заканадаўствам ды ўціскам на прэсу. Канешне ж, пачуць гэта з першых вуснаў больш прыемна.

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

СТАТЫСТЫКА

# БАЦЬКАЎшчына ў лічбах

## *Міністэрства статыстыкі пра нашыя дасягненні ў 1995 годзе*

**ПРАМЫСЛОВАСЦЬ**

У 1995 г. аб'ём прамысловай вытворчасці ў Беларусі знізіўся ў параўнанні з папярэднім годам на 11,5 %. Выпуск прадукцыі павялічылі толькі 559 прадпрыемстваў, што складае 33,2 % ад іх агульнай колькасці. З усіх важнейшых відаў беларускай прадукцыі вырабілі больш халадзільнікаў, пральных машын, малочных прадуктаў, алею, а таксама гарэлкі, віна і шампанскага.

Сёння 1.589 прадпрыемстваў (18,2 % ад усіх) з'яўляюцца стратнымі.

**СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА**

Калгасы і саўгасы вытворчасць прадукцыі зменшылі на 12 %. 392 гаспадаркі (15 % ад усіх) з'яўляюцца стратнымі. Каля трэці ўсіх гаспадарак маюць рэнтабельнасць меней за 5 %.

Сёння ў Беларусі дзейнічае 3.030 фермерскіх гаспадарак, за якімі замацавана 62 тыс. га зямлі. У мінулым годзе зарэгістравана 76 новых фермераў. Тымчасам у Мінскай вобласці скарацілася 12, а ў Магілёўскай – 2 фермерскія гаспадаркі.

**БУДАЎНІЦТВА**

Летась пабудавана 25 тыс. кватэр, што складае 54 % ад узроўню 1994 года. У незакончаным стане будаўніцтва цяпер знаходзіцца звыш 22 тыс. аб'ектаў (з іх 51 % мае вытворчае прызначэнне). Часова прыпынена або законсервавана будаўніцтва больш за 3 тыс. аб'ектаў.

**ТРАНСПАРТ І СУВЯЗЬ**

Перавозкі грузаў усімі відамі транспарту скараціліся за год на 26 %. Пасажырскія перавозкі па чыгунцы зменшыліся на 12 %, аўтамабільным транспартам – на 27 %, а паветраным (на мясцовых лініях) - на 17 %. Тымчасам міжнародных авіяперавозкі ўзраслі на 7 %.

Летась кошт білета за карыстанне транспартам (усімі відамі) павысіўся ў сярэднім у 4,3 разы.

Цяпер з кожных 100 сем'яў гарадскога насельніцтва тэлефон маюць 60, а ў сельскай мясцовасці – 27 сем'яў са 100. А ўсяго тэлефоннай сувяззю карыстаюцца больш за 1 млн. 968 тыс. абанентаў.

**ЛЯСНАЯ ГАСПАДАРКА**

Летась у Беларусі адноўлена лясоў на плошчы 21 тыс. га, што на 8 % менш, чым у 1994 годзе. Зарэгістравана 3,3 тыс. лясных пажараў, ад якіх згарэла і пашкоджана 57,7 тыс. кубаметраў лесу. Ад лясных пажараў страты склалі 4,5 млрд. рублёў.

**ПРЫВАТЫЗАЦЫЯ ЖЫЛЛЯ**

На 1 студзеня 1996 года жыхарамі Беларусі прыватызавана 625,3 тыс. кватэр, альбо 36 % ад агульнай колькасці.

Кошт адной прыватызаванай кватэры (дома) склаў у 1995 г. 89 тыс. рублёў у горадзе, а ў сельскай мясцовасці – 220 тысяч рублёў.

Летась на аўкцыёнах прададзена ўсяго 7 кватэр, з іх 4 купілі грамадзяне, 3 – юрыдычныя асобы.

У 1995 г. імянныя прыватызацыйныя чэкі "Жыллё" атрымалі 722 тыс. чалавек.

**СПАЖЫВЕЦКІ РЫНАК**

Як сведчыць Мінстат, людзі сталі менш спажываць асноўных прадуктаў харчавання, акрамя алею і рыбы. Напрыклад, летась гандаль менш рэалізаваў крупаў (на 16 %), макаронных вырабаў (на 14 %).

Зменшыўся попыт і на нехарчовыя тавары. Амаль на палову зменшыўся продаж абутку, шаўковых тканін, трыкатажных вырабаў, адзення і бялізны.

Відавочна, што скарачэнне пакупніцкай здольнасці грамадзян у першую чаргу звязана са зніжэннем рэальных даходаў насельніцтва. Па ацэнках спецыялістаў, у 1995 г. рост цэнаў на тавары апярэдзіў рост зарплаты на 6 %. Дарэчы, сярэднемесячная зарплата склала 741 тыс. рублёў, якую атрымалі яшчэ не ўсе работнікі. Запазычанасць па зарплаце на канец 1995 г. складала 860,6 млрд рублёў. Больш за ўсіх запазычылі зарплату на прамысловых прадпрыемствах (37 %) і ў калгасах (34 %). Па звестках статыстыкаў, не атрымалі яшчэ заробак за лістапад 1995 г. звыш 1 млн. людзей, за кастрычнік – 520 тыс. чалавек, а 219 тыс. работнікам не выдавалі грошы больш за два месяцы.

Па стану на лістапад 1995 г. самы высокі заробак мелі работнікі банкаў (1 млн. 616 тыс. руб. у месяц) і служачыя апарату органаў гаспадарчага кіравання (1 млн. 361 тыс. руб.), ніжэй за ўсіх – у калгаснікаў (453 тыс. руб.).

**БЕСПРАЦОЎЕ**

У якасці беспрацоўных афіцыйна зарэгістравана 131,1 тыс. чалавек, што складае 2,7 % ад агульнай колькасці працаздольнага насельніцтва. Найбольш беспрацоўных у Мінскай вобласці (25,9 тыс. чалавек) на Гомельшчыне (21,7 тыс. чалавек).

У снежні мінулага года дапамогу па беспрацоўі атрымалі толькі 70 тыс. чалавек, сярэдні памер склаў 101,2 тыс. рублёў.

**ЗЛАЧЫННАСЦЬ**

Летась было ўчынена 131,8 тыс. злачынстваў. Гэта на 10 % больш, чым у папярэднім годзе. У разліку на 10 тыс. жыхароў прыпадае 127 злачынстваў.

Сярод 69,9 тыс. выяўленых злачынцаў непаўналетнія складаюць 12 %, а жанчыны – 17 %. Кожны трэці злачынца лічыўся беспрацоўным. Паводле гэтай статыстыкі самымі крыміногеннымі можна лічыць горад Мінск, Магілёўскую, Мінскую і Гомельскую вобласці.

Падрыхтаваў
Анатоль МІРСКІ

# Экс-дэпутаты спрабуюць адсудзіць зарплату

## *Група дэпутатаў Вярхоўнага Савета 12-га скліканя, якія працавалі ў парламенце на сталай аснове, звярнулася ў суд з іскам супраць начальніка сакратарыята ВС*

Справа ў тым, што парламентарыі былога Вярхоўнага Савета на працягу апошніх трох месяцаў не атрымлівалі заробтную плату. І хаця спыніць фінансаванне Вярхоўнага Савета 12 склікання, як вядома, загадаў міністру фінансаў летась сам прэзідэнт, былыя дэпутаты вырашылі судзіцца менавіта з начальнікам сакратарыята парламента. На думку істцоў, начальнік сакратарыята Вярхоўнага Савета ў сваю чаргу павінны падаць у суд на міністэрства фінансаў, якое не пералічыла сродкі на зарплату парламентарыям.

СІМ

*Дэпутаты прыходзяць і сыходзяць, а чыноўнік – вечны. Гэта пацвердзіў Аляксандр Анціпенка, начальнік сакратарыята ВС, якога вы бачыце на гэтым здымку разам з новым спікерам Сямёнам Шарэцкім. Анціпенка (былы партыйны функцыянер), стаўшы шэфам сакратарыята яшчэ пры Дземянцеі, перажыў потым і Шушкевіча, і Грыба, перажыве, відаць, і Шарэцкага.*



РЫНКАВЫ САЦЫЯЛІЗМ

# «П'яныя» грошы

## *Калі 10 гадоў таму ў Беларусі дзейнічала 5 гарэлачных заводаў, то цяпер — 50*

Як паведамілі карэспандэнту СВАБОДЫ"Белхарчпрамe", у 1995 годзе ад рэалізацыі гарэлкі і лікёра-гарэлачных напіткаў дзяржава атрымала 1,8 трыльёна рублёў, што складае амаль 10 % даходнай часткі рэспубліканскага бюджэту.

Вытворчасць алкагольнай прадукцыі, бадай, адна з нямногіх галін беларускай прамысловасці, якая цяпер няблага трымаецца на нагах. Па дадзеных таго ж "Белхарчпрама" летась беларускія вінаробы значна павялічылі выпуск усіх відаў моцных напіткаў у параўнанні з папярэднім годам, а каньяка і каньячных вырабаў нават у два разы.

Вядома, што дзяржава ўвесь час затыкала дзіркі ў казне за кошт продажу гарэлкі, маючы пры гэтым добрыя дывідэнды. Намеснік дырэктара мінскага гарэлачнага завода "Крышталь" Міхаіл Ліля назваў карэспандэнту СВАБОДЫ даволі цікавыя лічбы. "Напрыклад, пляшка гарэлкі "Пшанічная", – гаворыць ён, – прадаецца ў рознічным гандлі за 25.700 рублёў, тымчасам як сабекошт яе складае ўсяго 3.050 рублёў. Пад выглядам акцызных збораў і розных падаткаў дзяржава забірае сабе з гэтай сумы больш 95 % грошай. А завод пасля ўсіх адлічэнняў мае з бутэлькі ўсяго... 84 рублі чыстага прыбытку".

Таму не дзіўна, што калі ўраду трэба вырашыць нейкія фінансавыя праблемы, адразу падымаюцца цэны на гарэлку, бо на гэты "стратэгічны" прадукт попыт амаль ніколі не зменшваецца. А ўсе замахі тых альбо іншых дзяржаўных дзеячоў розных часоў наладзіць у грамадстве цвярозы лад жыцця мелі даволі сумны вынік.

Тут варта прыгадаць кампанію па барацьбе з п'янствам, якую разгарнуў некалі сакратар ЦК КПСС Ягор Лігачоў. Людзі, якіх сілком спрабавалі зрабіць пастаяннымі цвярознікамі, адрэагавалі адэкватна – пачалі гнаць самагонку. Больш спрытныя дзялкі на дэфіцыце гарэлкі зрабілі нелагі бізнэс, а бюджэт у выніку пахудзеў на мільярды рублёў.

З'яўленне сёння "беларускага Лігачова" было б падобна на выбух атамнай бомбы для эканомікі, хаця шчупальцы яе "рынкавага сацыялізму" моцна абхапілі і вінна-гарэлачныя заводы. Той жа волат айчыннай гарэлачнай вытворчасці мінскі "Крышталь", які нядаўна справіў свой стогадовы юбілей, добра адчуў гэта на сабе. У мінулым годзе аб'ём вытворчасці прадукцыі тут вымушаны былі паменшыць на 35 %. Прычына знаёмая: не заўсёды хапае абаротных сродкаў. Айчынны гандаль, напрыклад, завінавацію прадпрыемству 85 млрд. рублёў. Дарэчы, спецыялісты "Белхарчпрама" адзначаюць, што калі б спіртныя напіткамі гандлявалі толькі на ўнутраным рынку, то рэнтабельнасць вінна-гарэлачнай галіны склала б усяго 3-4 %. Менавіта за кошт экспарту гэты эканамічны паказчык вырас да 20 %. Бо на экспартовую гарэлку дзяржава не бярэ акцызных збораў і падатак на дабаўленую вартасць. Але акрамя Расіі нашую гарэлку ніхто асабліва не купляе. Праўда, адной чы беларуская дыяспара з ЗША замовіла "Крышталю" невялікую партыю "Белавежскай". Заказ быў выкананы з добрай якасцю прадукта і някепскім афармленнем. Але спецыялісты Амерыкі не далі згоду на яе продаж, бо ім падозроным паказаўся корань "калганавы", які ўваходзіць у склад напітку. Хаця ў Беларусі гэты корань выкарыстоўваюць у лячэбных мэтах.

Ці абараняюць амерыканцы такім чынам свой рынак, ці так уважлівa клапоцяцца пра здароўе сваіх грамадзян – цяжка сказаць. Тым не менш беларускі ўрад крыніцу сваіх даходаў вырашыў абараніць. З пачатку гэтага года міністэрства эканомікі ўстанавіла новы парадак рэалізацыі спіртных напіткаў. Згодна з гэтым правілам забаронена прадаваць у Беларусі белую гарэлку ніжэй фіксаванай цаны (26 тыс. рублёў за паўлітра). Уведзены таксама іншыя абмежаванні з мэтаю атрымаць у бюджэт максімальную колькасць "п'яных" грошай. Аднак нашыя камерсанты, якія робяць капітал на беларускай гарэлцы, навучыліся абыходзіць самыя жорсткія забароны. Намеснік прэзідэнта канцэрна "Белхарчпрам" сп.Жылінскі паведаміў у прыватнасці, што зафіксаваны факты, калі прадпрыемальнікі афармляюць паперы на экспарт гарэлкі (пазбягаючы гэтым самым падаткаў і акцызаў), аднак, пераехаўшы беларуска-расійскую мяжу, разварочваюцца і рэалізуюць гарэлку ў нас. Падобныя аперацыі даюць добры "навар". Мабыць, нешта перападае і самім вытворцам гарэлкі, няглядзячы на тое, што дзяржава забірае ў іх амаль усе грошы.

Сёння крамы літаральна забітыя "Загадкамі", "Пярцоўкамі" дзятлаўскага, рэчыцкага, пінскага і іншых разліваў. Кемлівы старшыня калгаса ўжо даўно пераабсталяваў больш-менш прыстойны будынак кармацэха пад спіртны заводзік. Бо гэта больш надзейная крыніца даходу, чым вытворчасць малака альбо мяса.

Калі 10 гадоў таму ў Беларусі дзейнічала 5 вінна-гарэлачных заводаў, то цяпер – 50. Летась гэтыя заводы і заводзікі вырабілі на кожную беларускую душу па 6,8 літра ўсіх відаў спіртных напіткаў. Верагодна, што і гэта эканамічнае дасягненне не мяжа, бо апошнім часам у краіну завезена яшчэ каля 100 імпартных ліній па разліву гарэлкі.

Віктар ВАЛАДАШЧУК

THE SOROS EDUCATIONAL ADVISING CENTER
THE BELARUSIAN SOROS FOUNDATION

*ARE PLEASED TO ANNOUNCE*

**THE SOROS/WARWICK GRADUATE SCHOLARSHIPS PROGRAM 1996/1997**

*(MASTER'S DEGREE SCHOLARSHIPS IN GREAT BRITAIN)*

These scholarships are jointly funded by the Soros foundation, the foreign and commonwealth office and the University of Warwick, and are intended to enable candidates from Belarus, Georgia, Moldova and Romania to undertake a master's degree at the University of Warwick for one year from 30th september 1996.

**Eligibility:**

*The scholarships will be awarded only to candidates who:*

1. Wish to study full-time at the University of Warwick for a one year master's degree
2. Are nationals of and normally resident in Belarus, Georgia, Moldova and Romania
3. Have completed an undergraduate degree (высшее образование) or been awarded equivalent qualification by 30th september 1996
4. Have a good command of both written and spoken English (TOEFL score must be over 610)
5. Will be under 35 years of age by 30th september 1996
6. Have not already been awarded a university doctorate from another academic institution
7. Have not already spent a substantial period of time studying in a university outside of their home country

The selection committee will award the scholarships on the basis of academic merit (candidate's academic achievements, potential for successfully completing a higher degree, referee's reports and appropriateness of the research or study being undertaken at Warwick).

**Application information:**

Candidates may obtain application forms and information from the office of THE SOROS EDUCATIONAL ADVISING CENTER

15 Surganov Street, suite #11
Minsk, 220601,Belarus
Tel/fax: (0172) 628888

**Application deadline:** FEBRUARY 20, 1996

© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

# Шклоў – кузня кадраў

**Знакамітая Шклоўшчына – радзіма А.Лукашэнкі – становіцца сапраўднай кузняй кіруючых кадраў.**

Напрыклад, апошнім часам былы дырэктар саўгаса "Юбілейны" Шклоўскага раёна Міхаіл Хортаў назначаны дырэктарам Магілёўскага мясакамбіната. А старшыня калгаса "Маяк" Юры Мільто будзе цяпер яго намеснікам па эканамічных пытаннях.

Загадчыцу Шклоўскага аддзялення "Аграпрамбанка" Надзею Ермакову перавялі ў Нацыянальны банк на адну з кіруючых пасад. Ходзяць чуткі, што кіраўнік раённай "вертыкалі" Генадзь Лаўранкоў таксама хутка падымецца па службовай лесвіцы.

**Аляксандр ШЧАРБАК**

# Пошта дыхае на ладан

*Сёлета распачалася «перабудова» у структурах Міністэрства сувязі і інфарматыкі. Пошта і электрасувязь будуць цяпер існаваць паасобку*

Гэтыя пертурбацыі звязаны з замежнымі крэдытамі. Еўрапейскі банк рэканструкцыі гатовы субсідаваць развіццё ўсіх відаў сувязі, апроч паштовай. Чаму? Па-першае, паштовая сувязь звычайна належыць дзяржаве. А па-другое, яна ў Беларусі – стратная. Такім чынам пошта цяпер застаецца сам-насам са сваімі праблемамі.

На перасылцы пісьмаў і пасылак асабліва не пражывеш. Пішуць цяпер мала, часцей карыстаюцца тэлефонам. Прычым некалі, купляючы пяцікапеечны канверт, мы чатыры капейкі плацілі менавіта за перасылку. Цяпер канверт каштуе 600 рублёў, а з іх толькі трэць – гэта плата за паштовыя паслугі. А пасылкі сёння ўвогуле пасылаюць нячаста. Дзіва што, калі адрасуючы яе ў Маскву, напрыклад, трэба заплаціць ажно 150 тысяч рублёў. Каб прывабіць кліентаў, пошта на калядныя святы рабіла 20-працэнтную скідку на свае паслугі.

Рынкавыя ўмовы падштурхоўваюць яе таксама да аказання новых відаў паслуг, напрыклад экспрэс-пошты. Аднак з гэтым сувязісты як бы спазніліся. Яны прапануюць тэрмінова даставіць ваш ліст з Гродна ў Мінск за 28 тысяч рублёў, але яго можна перадаць міжгароднім аўтобусам значна танней. Тым ж, хто мае сталую патрэбу ў перасылцы інфармацыі (бізнэсмэны, напрыклад), карыстаюцца іншымі сродкамі сувязі. Карацей, колькасць паштовых адпраўленняў значна зменшылася і ніякім чынам павялічыць іх зноў наўрад ці ўдасца.

Менш працы – менш і плацяць. У Гродзенскай вобласці, дзе 510 аддзяленняў сувязі, 80 % іх персаналу мае няпоўны працоўны дзень. Гэтак зроблена, па словах начальніка абласной паштовай сувязі А.Худалея, дзеля таго, каб не павялічваць беспрацоўе. Па яго ж сведчанні, сёння асноўная функцыя пошты зусім не паштовая, а – выплата пенсій. Але праца гэта надзвычай нервовая. Грошы паступаюць увесь час са спазненнем. Напрыклад, толькі з 9-га чысла пачалі выплочвацца пенсіі за студзень. Летась паштоўцы мусілі нават некалькі разоў браць грошы для пенсіянераў са сваёй выручкі. З мілаСэрнасці, і не толькі. Усё часцей здараюцца скандалы з-за спозненых выплатаў пенсій, бо шмат каму са старых папросту няма з чаго жыць.

Можна, канешне, "умыць рукі", выдаўшы ўказ аб першачарговай выплаце заробкаў або тых жа пенсій, нават трохі іх павысіць. Аднак добрыя намеры застаюцца на паперы, калі заводы стаяць, і мясцовы бюджэт, пенсійны фонд і г.д. своечасова не папаўняюцца... Я якраз толькі прыйшоў з пошты, дзе такога наслухаўся, што ў газеце пра гэта ніяк не напішаш. У чарзе стаялі адныя жанчыны, за якіх вельмі любіць прамаўляць тосты Лукашэнка. Каб ён паслухаў, як яны яго лаялі за "добрае жыццё", дык, спадзяюся, ён міжволі пашкадаваў бы, што палез у бойку на прэзідэнцкіх выбарах. Прычым найбольш мяне ўразіла, што ніхто нават не паспрабаваў абараніць яго.

Я пацікавіўся ў жанчын, што іх асабліва нервуе. Адна з іх адказала: вось павысілі пенсію – было 240 тысяч з невялікім, стала на 20 тысяч больш. Што за гэтыя грошы купіш – паўкілаграма мяса? Мінімальны заробак і пенсіі з год не павышаліся, а цэны выраслі значна. А кватплата? А лекі? Каб ад грыпа вылечыцца, амаль палову пенсіі патраціш... Вось такія ў чэргах на пошце адбываліся размовы.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

# На заробкі – у Чэхію

**Ужо традыцыйнымі сталі выезды моладзі Магілёўшчыны на летнюю працу ў лесагаспадаркі Чэхіі.**

Толькі ў бягучым годзе 28 студэнтаў і 80 чалавек так званай "працоўнай моладзі" на працягу трох–шасці месяцаў будуць расчышчаць і садзіць лес. Гэта малая частка ад тых, хто спадзяецца знайсці сабе працу. Заробкі, у параўнанні з мясцовымі, неблагія – ад 150 да 300 долараў у месяц. Харчаванне і пражыванне бясплатнае, за свой кошт толькі дарога.

У Магілёўскай вобласці сярод 16 тысяч афіцыйна зарэгістраваных беспрацоўных палову складае моладзь ва ўзросце да 30 гадоў.

**Аляксандра ПРОНЬКІНА**

# Рогі і капыты на мясакамбінаце

**Эканамічны крызіс прымусіў Крычаўскі мясакамбінат на дзве трэці скараціць аб'ёмы вытворчасці.**

Больш за палову работнікам завода няма чаго рабіць. Каб не звальняць людзей, тут наладзілі падсобныя цэхі. У адным былыя мяснікі робяць падушкі і рукавіцы, у другім – сувеніры з рагоў. Засталося вырашыць, што рабіць з капытамі.

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

# «Чарнобыльскія сталкеры»

**У 1.000 разоў узрасла ў Магілёўскай вобласці колькасць незаконных пранікненняў на тэрыторыю, забруджаную радыенуклідамі.**

У 1995 годзе было складзена 4.128 пратаколаў на нелегальных візіцёраў. У большасці выпадкаў парушальнікі кіруюцца ў "зону" з мэтаю нешта вынесці з яе – ці то хатнія рэчы, ці то гаспадарчыя прылады. Але галоўнае бедства звязана з тым, што мясцовыя "сталкеры" разбіраюць і вывозяць на продаж кінутыя хаты. Тым, хто набывае па танным кошце разабраныя дамы, спецыялісты раяць праверыць бярвенне на ўтрыманне радыеактыўнага бруду.

**Іван ЗАСАДА**

# Журналісты хочуць быць ліквідатарамі

**14 журналістаў з Магілёўскай вобласці звярнуліся да прэзідэнта Лукашэнкі з лістом пратэсту.**

Яны патрапілі ў лік тых 2.000 чалавек, якім не перарэгістравалі іхнія пасведчанні "чарнобыльцаў". Журналісты лічаць, што яны заслугоўваюць гэтага "ганаровага" звання і замацаваных за ім ільготаў. Рэч у тым, што па роду сваёй дзейнасці ім сапраўды прыходзілася неаднаразова і не на адзін дзень выязджаць у забруджаныя месцы, каб рабіць матэрыялы. Іншая рэч – наколькі праўдзівымі былі іхнія паведамленні.

# Пасадзілі за хабар

Былы намеснік генеральнага дырэктара наваполацкага аб'яднання "Нафтан" Мікалай Вяльцын днямі асуджаны да 5 гадоў пазбаўлення волі (з канфіскацыяй маёмасці) за атрыманне хабару.

**Тамаш ГУРБА**

ПОСТСАВЕЦКІ СІНДРОМ

# На сваёй мяжы сустракаюць стралянінай

*Пяць жанчын, якія, мінуўшы літоўскі КПП, ступілі на беларускую тэрыторыю, былі спыненыя стрэлам у паветра*

На пачатку студзеня ў друскеніцкі санаторый "Беларусь" прыехала на лячэнне новая група беларускіх дзяцей. Везлі іх у Літву бацькі.

Уладкаваўшы дзяцей у санаторыі і пераначаваўшы, наступнай раніцай некалькі жанчын заспяшаліся дадаму. Але выйшла неспадзяванка – спазніліся на цягнік. Паразважаўшы, вырашылі як-небудзь дабрацца да мяжы, а адтуль пешшу – да станцыі Парэчча. З цяжкасцю ўгаварылі таксіста, які адмаўляўся браць адразу пяць чалавек, бо за гэта дарожная паліцыя магла яго аштрафаваць. Але давёз ён іх усяго за сем долараў.

Літоўская варта паставілася да жанчын вельмі прыязна. Памежнік толькі пажартаваў, што яны вандруюць цераз мяжу пешшу. Падыйшлі да беларускага шлагбаўма, побач – будка, але ў ёй пуста. Значыцца, можна прайсці свабодна? Жанчыны і пайшлі з палёгкай, бо – дахаты ж! Але раптам – ба-бах! – стрэл у паветра. Насустрач бяжыць вайсковец з крыкам: "Куда идете? Вернитесь назад!" У іх – памежнікаў – маўляў, па-разменка. Таму чакайце за шлагбаўмам з літоўскага боку.

Жанчыны, як прызналася адна з іх, жыхарка Гродна, адчулі сябе нібы якімі парушальнікамі. Вось як на роднай зямлі сустракаюць! Чакаць ім давялося даволі доўга. Потым выйшаў афіцэр, і, нават не думаючы папрасіць прабачэння, пачаў распытваць, хто яны і куды кіруюцца. Прыдзірліва разглядаў дакументы, у якія літоўскі памежнік амаль не зазірнуў. Рэч у тым, што жанчыны ездзілі ў Літву без візаў, якія замянялі санаторныя пуцёўкі. Тым не менш, на групу парушальнікаў мяжы яны яўна не былі падобныя. І ўвогуле, што гэта за манера: сустракаць сваіх грамадзян стралянінай, прычым без папярэджання?

Пільны ахоўнік мяжы нарэшце адпусціў бедных жанчын, даўшы ім на рукі "дакумент" – запіску на кавалку паперы: "Пять человек идут пешком из Друскининкая в Поречье". Гэтую паперку ў іх забралі каля наступнага шлагбаўма і ўрэшце рэшт адпусцілі. Невялікі аўтобус са зменены вартай, пакуль яны чакалі за шлагбаўмам, з'ехаў. Хаця мог бы і падвезці іх да таго Парэчча, да якога ім давялося крочыць лесам сем кіламетраў. Але, што праўда, на цягнік яны ўсё ж паспелі сесці, хоць і ў самы апошні момант. А, дабраўшыся да Гродна, раз'ехаліся: у Жодзіна, Барысаў, Пінск, Паставы. На ўсё жыццё запомніўшы, як іх сустрэлі стрэлам на роднай зямлі.

Здарыўся апісаны вышэй выпадак 4 студзеня.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

# Адбіваюцца ад сцяга

**Калектыў наваполацкай "Новай газеты" – орган гарсавета, адмовіўся ўзброіцца лукашэнкаўскім сцягам.**

На агульным сходзе амаль увесь склад рэдакцыі выказаўся супраць настойлівых дамаганняў мясцовай "вертыкалі" упрыгожыць кабінет рэдактара чырвона-зялёным сцягам.

**Тамаш ГУРБА**

# Каго шануе пралетарыят?

**У Ганцавічах перастала існаваць вуліца Пралетарская.**

Жыхары прапанавалі перайменаваць яе ў гонар Васіля Праскурава, беларускага пісьменніка і рэдактара раённай газеты, які жыў на гэтай вуліцы. У памяць аб земляку на ягоным доме ўсталявана мемарыяльная дошка.

**І.Б.**

# Небяспечны эксперымент

**У адной з сярэдніх школаў Пінска прыватная фірма са згоды дырэкцыі і аддзела адукацыі гарвыканкама ўстанавіла аўтаматы для гульняў.**

Меркавалася, што на працягу месяца прадпрымальнікі вывучаць цікавасць школьнікаў да гэтай справы і потым звернуцца ў выканкам па ліцэнзію. Аднак праз месяц улады катэгарычна адмовілі прадпрымальнікам. Выявілася, што аўтаматы для гульняў цікавілі вучняў значна больш за навучальны працэс. Акрамя таго, усе свае грошы, якія дзеці атрымлівалі ад бацькоў на абеды, яны пераводзілі на гульні. Пасля эксперыменту ўлады нават папярэдзілі прадпрымальнікаў, каб больш ні ў якія навучальныя ўстановы з падобнымі прапановамі яны не звярталіся.

**Ігар БАРАНОЎСКІ**

# У Бабруйску дзеці катаюцца бясплатна

**Згодна вынікам ананімнага анкетавання бабруйскіх школьнікаў 70 % навучэнцаў карыстаюцца грамадскім транспартам як "зайцы".**

Пасля праведзенага апытання гарадское кіраўніцтва вырашыла зрабіць праезд у аўтобусах і тралейбусах для вучняў бясплатным. Хай катаюцца!

**Сымон ГЛАЗШТЭЙН**

# З фальшывых грошай – на фальшывыя праязныя

**На магілёўскім грамадскім транспарце хутка з'явяцца новыя праязныя дакументы.**

Адрозніваць ад ранейшых яны будуць спецыяльнай аховай. У апошні час транспартнікі сутыкнуліся з праблемай падробкі абанементаў на праезд з дапамогай добрых ксераксаў. Ужо адбылося некалькі дзесяткаў такіх здарэнняў. Цяпер кіраўнікі грамадскага транспарту спадзяюцца, што падробак стане менш. Наіўныя...

**Іван ЗАСАДА**

ВАЧЫМА МАСТАКА







© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

